ПРАЗМЕРНАЕ ЎЖЫВАННЕ ПІВА І ЧЫТАННЕ ГАЗЕТ ШКОДЗІЦЬ ЗДАРОЎЮ!

piunaya.by




ISSN 2077-0308







№1 (3)
9 сакавіка 2010



## Вясновы гон ці недагон

Вясна звычайна з'яўляецца сезонам, калі ўсё абуджаецца з зімовай спячкі. І прырода, і чалавечы арганізм перажываюць гарманальны ўздым.

Аднак ці заўважылі вы, што сёлетнія працэсы крыху адрозніваюцца ад леташніх – ваш мужчына апонім часам вядзе сябе неяк нервова. Ён не знаходзіць сабе месца ні дома, ні на вуліцы. У ягонай постаці адчуваецца схаванае незадавальненне, згубіў апетыт, знікла жаданне. У блукаючым позірку з'явіўся незвычайны бляск. І вы не ведаеце, што з ім адбываецца?..

Стар. 4-5

# ЧАМУ МУЖЧЫНАМ НЕ ДАЮЦЬ

## піць піва на вуліцах?

## АДНЫМ ГЛЫТКОМ

### Гарэлка



У Беларусі ў студзені 2010 года знізілася рэалізацыя гарэлкі на 4,6% у аднасінах да першага месяца мінулага года. За гэты ж перыяд піва прададзена 2 млн 32,7 дал, што на 13,1% болей за студзень 2009. Яго доля ў агульным спажыванні алкаголю склала 10,7% (у студзені 2009 – 9,4%).

### Насельніцтва



Колькасць насельніцтва Рэспублікі Беларусь (паводле дадзеных бягучага году з улікам папярэдніх вынікаў перапісу насельніцтва 2009) на 1 лютага 2010 году склала 9477,2 тыс. чалавек і ў параўнанні з адпаведнай датай мінулага году скарацілася на 13,6 тыс. чалавек.

### Закон



Толькі за першы дзень дзеяння новага адміністрацыйнага кодэксу мінскай міліцыяй складзена 80 пратаколаў за распіццё піва ў грамадскіх месцах. Бюджэт мінгарвыканкаму папоўніўся на кругленькую суму.

### Цукар



З 27 лютага павышаны ў сярэднім на 5% фіксаваныя розничныя цэны на цукар-пясок для рэалізацыі насельніцтву. Па словах аналітыкаў, дадзеная мера павінна нанесці рашучы ўдар па пазіцыях самагоншчыкаў.

### Нафтапрадукты



Рознічныя цэны на нафтапрадукты, якія адпускаюцца на АЗС, павышаны з 27 лютага на 7%. Цяпер аўтааматары будуць больш часу праводзіць са сваімі сем’ямі. Адначасова павінна зменшыцца колькасць дарожна-транспартных здарэнняў.

### Транспарт



З 1 сакавіка падаражэў праезд у грамадскім транспарце. Цяпер кошт адной паездкі ў аўтобусе, трамваі, тралейбусе і метро складае 700 рублёў. Падаражанне прымусіць пасажыраў больш хадзіць пешшу, папярэджваючы тым самым з’яўленне сардэчна-сасудзістых захворванняў.

### Стыпендыі



Памер усіх відаў дзяржаўных стыпендый павялічана на 5%. Адпаведны ўказ, прыняты ў мэтах далейшага ўмацавання сацыяльнай абароны моладзі, падпісаны 26 лютага. Мяркуецца, што дадзеная мера павінна поўнасцю кампенсаваць павышэнне цэнаў на цукар.

**НА ПАЛЯХ КЛАСАВАЙ БАРАЦЬБЫ ЗНОЎ НЕСПАКОЙНА. ПРАФСАЮЗ ПІВАВАРАЎ БЕЛЬГІІ БАРОНІЦЬ СВАЕ ПРАВЫ.**

# У ЕЎРОПЕ – ПЕРАБОІ З... ПІВАМ?!

Ёпцель!.. А вось у нашым аграгарадку!..

Пардон, а дзе Лё Жыгульен?!

Мусьё! Вас тут не стаяла!

**Двухтыднёвае супрацьстаянне працоўных і кіраўніцтва бровару “Анхойсэн-Буш” прывяло да поўнага спынення трох піўзаводаў у Бельгіі. Па дадзеных кампаніі, спажыўцы пачалі аддаваць перавагу віну і моцнаму алкаголю, што прывяло да скарачэння продажаў піва. Так, з пачатку стагоддзя продажы ўпалі больш чым на 20%.**

У знак пратэсту супраць планаў скарачэння 10% персаналу, піўвары з гарадоў Левэн, Жупі-сюр-Мез і Хугардэн заблакавалі пад’езды да сваіх заводаў. А самыя адчайныя нават узялі ў закладнікі 10 кіраўнікоў заводу, патрабуючы сустрэчы з топ-мэнэджэрамі з галоўнага офісу. Але й гэты крок не прывёў да вырашэння канфлікту.

“Мы пакуль не плануем праводзіць усеагульную забастоўку, – кажа прадстаўнік прафсаюзу. Мы проста блакіруем вываз піва. Хутка ў барах і супермаркетах піва не застанецца. Гэта прымусіць кіраўніцтва пайсці на саступкі”.

Акрамя блакіравання і “боснэпінгу” пратэстуючыя паспяхова праводзяць аперацыю “Слімак”, калі грузавікі перасоўваюцца па вуліцах вельмі марудна і паралізуюць аўтатрафік. Трэба дадаць, што гэты сабатаж ужо прывёў да сур’ёзных перабояў у пастаўках піва па ўсёй Бельгіі. Правы працоўных, безумоўна, істотная рэч, але ж у пылу барацьбы нельга забываць і пра простых бельгійскіх грамадзян. У нашым постсавецкім грамадстве, якое перажыло ліхія перабудовачныя часы з іх сухім законам і татальным дэфіцытам, такія метады проста недапушчальныя. Мы яшчэ добра памятаем, што такое кіламетровыя чэргі ў віна-гарэлачны аддзел і пустыя паліцы магазінаў.

А вось жыхарам маленькага еўрапейскага каралеўства яшчэ давядзецца адчуць гэта на сваёй уласнай глотцы.

# А вось за што я люблю каўбоя!

Я табе за арэшкі бошку адаб’ю!

**Не дзіцячыя падзеі ў стылі Дзікага Захаду разгарнуліся днямі ў англійскім горадзе Танбрыдж Уэлс графства Кент.**

Тут, у адным з мясцовых “салунаў” адбылася масавая бойка, у якой прынялі ўдзел каля 50 чалавек. Як гавораць у Тэхасе, былі б кулакі, а падстава знойдзецца.

Канфлікт разгарэўся падчас сваркі двух наведнікаў рабочага клуба. Абодва кліенты хацелі, каб бармэн аддаў ім апошні пакецік арахісу. Ніхто не захацеў саступіць, і, як гэта заведзена ў сапраўдных мужыкоў, было вырашана даказаць сваю праву сілай. Хутка сутычка перарасла ва ўсеагульнае пабоішча, якое паступова перакінулася і на двор. Жыхарам вакольных дамоў нічога не заставалася, акрамя як выклікаць шэрыфа. Прыбыўшым палісмэнам прыйшлося нават прымяніць слезацечны газ. Сямёра ўдзельнікаў былі арыштаваныя, а астатнім былі прысуджаныя немаленькія штрафы. Цяпер наваяўленых каўбояў чакае суровае працвыхаванне.

# ЯКОЕ ПІВА – ГЭТКІ Й ЗАКУСЬ

У апошнія гады беларускі рынак піўных закусак з лёгкай рукі тэлебачання ператварыўся ў сапраўдны фастфуд. З блакітных экранаў на падсвядомасць спажыўца бясконцым патокам ліецца рэклама чыпсаў, сухарыкаў, снэкаў ды іншых жоўтых валасацікаў вытворчасці заходніх ці расійскіх карпарацый. Нягледзячы на відавочную шкоднасць частага ўжывання гэтых паўфабрыкатаў, яны працягваюць займаць вядучае становішча, дзякуючы сваёй агрэсіўнай медыя-прапагандзе.



Несумнеўна, наспеў час нешта з гэтым рабіць. Але што можа прапанаваць айчынная харчовая прамысловасць? Адказ на гэтае пытанне знайшлі на Пінскім мясакамбінаце, дзе зусім нядаўна наладзілі выпуск вэнджаных свіных лычоў і хвастоў. На сённяшні дзень прадпрыемства пастаўляе сваю прадукцыю практычна ва ўсе беларускія гарады. У сярэднім кожны дзень вырабляецца каля 20 кг лычоў і 10 кг хвастоў, усё залежыць ад колькасці забітых дзюдзікаў.

Па словах аматараў піва, новы прадукт вельмі смачны і добра пасуе да піва, але выгляд мае не вельмі эстэтычны. І не дзіва – каму спадабаюцца тры лычы, завёрнутыя ў цалафан! Трэба з большай фантазіяй падыходзіць да афармлення, з крэатывам. Па-першае, патрэбна яркая ўпакоўка. Па-другое, запамінальная назва. Напрыклад, “Тры парасяці”, ці “Ніф-Ніф, Нуф-Нуф, Наф-Наф”, “Функік” у рэшце рэшт. Ды й рэкламны слоган ужо гатовы. Старая палеская прымаўка: “У Пінску – усё па-свінску”. Толькі такім чынам айчынныя вытворцы могуць вярнуць сабе сваю спрадвечную нішу – хатнія прысмакі да піва.

# Абібок, самы настаяшчы!




**Жыў сабе жыў звычайны нямецкі грамадзянін, жыхар Гамбурга Арна Дзюбель, нікога не чапаў. Толькі вось была ў яго адна адметная рыса – не любіў ён працаваць. Наогул. Не любіў і ўсё тут.**

Вы скажаце, што тут за дзіва, шмат хто не любіць працаваць. Але ж гер Дзюбель не толькі не любіў, ён ніколі і не працаваў. Як толькі яму стукнула 18 гадоў, а было гэта ў далёкім 1974, ён стаў на ўлік на біржу працы і адразу ж пачаў атрымліваць дапамогу па беспрацоўі.

Усякі раз, калі яму прыходзіла новая прапанова з вольнай вакансіяй, ён не згаджаўся. Калі ж улады

# Піўныя войны: Brew Dog зноў мацнейшы



**На еўрапейскім піўным рынку кіпяць не жартоўныя страсці. Паміж нямецкай піўной кампаніяй Schorschbrau і незалежнымі шатландскімі піваварамі BrewDog разгарнулася сапраўдная "гонка ўзбраенняў". У мінулым нумары мы паведамлялі, што ў адказ на звышмоцнае нямецкае піва Schorschbraer, моцнасцю ў 31% шатландцы зварылі 32-градуснае і назвалі яго "Ядзерны пінгвін".**



Вядома ж, нямецкая фанабэрыя не змагла змірыцца з такой абразай, і на экстранным паседжанні кіраўніцтва было вырашана даць рашучы адпор шатландскім альтэрнатыўшчыкам. І вось, на рынак выйшла сапраўдная піўная бомба – гатунак з доляй спірту 40%! Бюргеры пачалі было радасна паціраць рукі і тэлефанаваць у мясцовы офіс "Кнігі Гінэса", каб яе прадстаўнікі засведчылі дасягненне.

Але, як аказалася, зарана. Нядоўга думаючы, бравыя шатландскія горцы пабілі яшчэ свежы рэкорд. Цяпер яны зварылі не проста бомбу, а магутную тарпеду ў 41%. Ды і назву падабралі адпаведную – Sink the Bismarck, што ў перакладзе значыць "Патапі(-ць) "Бісмарк".

Як вядома, падчас другой сусветнай вайны ў склад нямецкіх крыгсмарынэ ўваходзіў адмайменны лінкор, адзін з самых вядомых караблёў у гісторыі. Падчас свайго, дарэчы, адзінага паходу "Бісмарк" знішчыў брытанскі флагман "Худ", пасля чаго на яго пачалося сапраўднае паляванне каралеўскага флоту і авіяцыі. Праз тры дні агульнымі намаганнямі ён быў патоплены. З таго часу германскі надводны флот страціў сваё вядучае становішча, а пагібель лінкора параўноўваюць з гібеллю самаго "Тытаніка". У 1960 годзе рэжысёр Льюіс Гільберт зняў стужку "Патапіць "Бісмарк", а вядомы кантры-спявак Джоні Хортан напісаў аднайменную песню. Так што для немцаў піва з такой назвай як чырвоная анучна для быка.

Што тычыцца моцнасці, то яна таксама сымбалічная, бо апісаныя вышэй падзеі адбыліся акурат у 41 годзе.

Каб дасягнуць гэтай лічбы, піва замарожваюць ажно чатыры разы. Яно мае ў чатыры разы болей хмелю і нашмат гарчэйшае за звычайнае. Карацей, вытворчасць абыходзіцца не танна. Ну і кошт адпаведны – 40 фунтаў за бутэльку 0,33 літры. Што складае 180000 беларускіх рублёў па курсу брытанскага Нацбанка. Заказаць гэты небяспечны напой можна толькі праз сайт кампаніі BrewDog.



Відавочна, што такую абразу ў Schorschbrau цярпець не будуць, а таму ў хуткім часе можна чакаць далейшай эскалацыі піўной вайны. Цікава даведацца, да якой мяжы дойдуць супернікі ў гэтай бязлітаснай гонцы за градусам, калі іх не спыніць. І ці дачакаемся мы піва моцнасцю 96%.

Мы ж у сваю чаргу абяцаем сачыць за развіццём падзей. Дзеля гэтай мэты рэдакцыя сур'ёзна разглядае неабходнасць акрэдытацыі нашых карэспандэнтаў на Schorschbrau і BrewDog.






паграджалі адабраць грашовую дапамогу, ён заўсёды браў бальнічны і прыкрываўся ім як бранёй. Такім чынам за 36 гадоў прафесійны дармаед выцягнуў з дзяржавы больш за 300 тысяч еўра. Яго ўжо шмат разоў запрашалі на тэлебачанне, дзе ён з ганарыстым выглядам распавядаў пра свае любімыя забавы: моцны сон, прагляд тэлевізара і распіццё лепшых гатункаў нямецкага піва. Пры гэтым ён абсалютна не саромеўся і на ўсю краіну заяўляў: "Працуюць адныя дурні!"

Але ў апошні раз гультай не здолеў атрымаць бальнічны, бо яго ўрач сам захварэў, а падмяніць яго не было каму. Тут яго і ўзялі пад белыя ручкі сацыяльныя работнікі. Цяпер яго прымусілі займацца гаспадарчымі працамі і адначасова спасцігаць азы сваёй новай прафесіі – прасаваць бялізну, прасці і шыць. Вось так на 55-м годзе для Дзюбеля пачалося новае жыццё. А самым цяжкім, па яго словах, было адмовіцца ад штодзённага куфлю піўка. Толькі нездарма гаворыць нямецкая прыказка – колькі Актобэрфэстаўскай каўбасе ні віцца, але "Арбайт махт фрай", шаноўны гер Дзюбель.

# 23 лютага разведчык Ісаеў мог бы за распіццё "Хольстэна" на Аляксандраўскім скверы...

"Да-а, гэта поўны п...равал", падумаў Штырліц

Вы што, не атрымалі апошнюю дырэктыву з Цэнтру?

А Вас, Штырліц, я папрашу застацца! З Вас 280 тысяч рэйхсмарак.

**"Тут пошлі провалы, начались облавы, много стало наших пропадать..."**

За першыя два тыдні дзеяння антыпіўнога закону былі прыцягнутыя да адказнасці тысячы грамадзянаў, што мелі неасцярожнасць "пастарынцы" выпіць піўка на вуліцы. Тым не менш, большасць грамадзянаў сцеражэцца браць у рукі бутэльку на вачах бліжняга.

Цяпер вуліцы вячэрняй сталіцы нагадваюць пустынныя кварталы падчас каменданцкага часу. Толькі зрэдку міліцэйскія бобікі рыскаюць па дварах і скверах, з надзеяй высвечваючы фарамі патэнцыйных парушальнікаў правапарадку. Дзе там! Тыя перабраліся ў пад'езды бліжэйшых дамоў пад надзейную абарону кодавых замкоў.

Ішоў 17-ы дзень піўной блакады...

**Забарона распіцця піва на вуліцах у Беларусі дала выдатную тэму для журналісцкіх допісаў. Сапраўды, пра што пісаць? Не пра алімпійскія ж гульні ці інаўгурацыю Януковіча. Відавочна, пра тое, што закранула ўсіх за самае жывое.**

Гартаючы старонкі незалежнай і не зусім прэсы, гэтыя матэрыялы можна размеркаваць на дзве катэгорыі. Першая катэгорыя – рэпартажы па месцах масавых рэпрэсій з падлікам пакараных за парушэнне славутага пастанаўлення, а другая – аналіз сітуацыі з выразам свайго стаўлення да абвешчанага дзяржавай антыалкагольнага тэрору. І яно збольшага станоўчае. Ніхто з журналістаў не разважае пра свабоду і правы прыватнага чалавека, інтэрв'ю бяруць не ў пацярпелых, а ў ахоўнікаў парадку, чыя задача – кантраляваць і караць. Жэстачайшэ!

Вось *"Комсомольская правда в Белоруссии"* запрасіла на размову "пад піўко" начальніка Фрунзенскага РУУС Алега Гайдукевіча:

"...А могуць пакараць, калі толькі адкаркаваў бутэльку піва на вуліцы, але нават глыток не паспеў зрабіць?

– Так! – мяркуе Гайдукевіч. – Я хачу, каб у Беларусі было дакладна так, як у Германіі, Аўстрыі, Швейцарыі, дзе нікому да галавы не прыйдзе адкаркаваць бутэльку піва і піць яе на вуліцы. У маладых людзей, якія бываюць за мяжой, менталітэт ужо памяняўся. Памяняецца і ў другіх, калі яны заплацяць пакаранне ў 280 тысяч."

Гэтак, ні больш ні менш справа ў змене менталітэту! "Камсамолка" нават размясціла мапу, дзе міліцэйскі батл-кантроль найбольш інтэнсіўны:

Ці значыць гэта, што ў іншых месцах будзе спакайней? А можа газета пайшла на змову з праваахоўнымі органамі і спецыяльна надрукавала такую мапу, каб заспакоіць пільнасць жыхароў іншых рэгіёнаў сталіцы? Нікому нельга давяраць.

*"СБ Беларусь сегодня"* працягвае тэму акалічнасцяў, у якія можа трапіць неасцярожны парушальнік новага піўнога этыкету.

"У міліцыю, у тым ліку і на сайт ГУУС, паступіла нямала пытанняў аб адказнасці ў выпадку, калі, напрыклад, бутэлька піва знаходзіцца ў пакеце. Ці маюць права супрацоўнікі міліцыі зазірнуць у пакет і прыняць якія-небудзь меры?" - распавялі ў Цэнтральным РУУС




**Калі вы распіваеце піва на пляжы і бачыце набліжэнне патруля, то паводле патрабавання новага заканадаўства, вы мусіце праявіць салідарнасць і аб'яднацца з такімі сама п'янтосамі ў адну кампанію.**

## Піць піва на прыродзе таксама забараняецца

На парозе вяснова-летняга сезону аматараў актыўнага адпачынку на свежым паветры чакае яшчэ адзін сюрпрыз. Сумна вядомая пастанова тычыцца не толькі грамадскіх месцаў, але і мясцін, дзе грамадзяне сутыкаюцца з раслінным і жывёльным светам. Маюцца на ўвазе зоны адпачынку па-за горадам, а значыць і грамадствам.

Ва ўпраўленні ўнутраных спраў патлумачылі, што лясы і паляны могуць лічыцца грамадскім месцам, калі група алкатурыстаў ужывае спіртныя напоі на вачах у іншых. Тлумачым: калі на палянцы бухаюць дзве кампаніі адначасова (на вачах адна ў адной) – гэта правапарушэнне. Альбо адна з кампаній мусіць сысці (на месцы разбярэцеся якая), альбо трэба проста аб'яднацца і бухаць разам. Тады ўсё будзе ў рамках закону. Праблема, як быць з пляжам, які таксама падпадае пад гэтую забарону і дзе фактычна ўсе – адна вялікая кампанія?..

# ...ць затрыманы гестапа ...ндэрпляц...




**Аналіз матэрыялаў беларускіх СМІ засведчыў, наколькі тутэйшыя шчаўкапёры халодныя і абыякавыя да праблемаў піўной галіны**

# НОЖ У СПІНУ ПІВАВАРАМ

## АЛЬБО ПЯТЛЯ НА ГОРЛА СПАЖЫЎЦАМ

Мінска.
Адказнасць надыходзіць у тым выпадку, калі, напрыклад, малады людзі, седзячы на лавачцы ў парку, хаваюць у пакеце бутэльку піва або іншага слабаалкагольнага напою, і гэтая бутэлька адчыненая. Супрацоўнік міліцыі мае поўнае права зазірнуць у пакет і, убачыўшы тамака адчыненую бутэльку гарачыльнага напою, прыняць да парушальніка ўсталяваныя законам меры."

Адзіны выпадак, здаецца, можа быць толькі тады, калі на пакеце ёсць надпіс "дыпламатычная пошта", якая паводле тых самых еўрапейскіх правілаў не падлягае дагляду з боку праваахоўных органаў. Гэтак, у гады сухога закону ў ЗША дзейнічала алкапошта – віскі можна было атрымліваць у бандэролі, бо гэта не было забаронена законам. Але беларускі досвед паказвае, што ўлады не асабліва звяртаюць увагу на дыпламатычную недатыкальнасць, нават калі на вашым пакеце будзе стаяць грыф "Уга Чавесу лічна!".

*"Наша ніва"* ўстойліва пераймае пераходны чырвоны вымпел і ганаровы тытул гарохавых блазнаў беларускіх выцвярэзных медыяў. Вось што пішацца на ўхвалу забароны піцця піва у НН:

"Змены ў Кодэксах многіх дысцыплінуюць. У Заходняй Беларусі ў часы Пілсудскага гаспадароў каралі за павалены плот, разбітую вуліцу перад сядзібай. Людзі бурчэлі, але дагэтуль у заходнікаў больш парадку і менш развалу. Часам прыходзіцца ўжыўляць у цела грамадства элементы побытавай культуры такім жорсткім спосабам"

Цікава, што ж рабілі ў Польшчы Пілсудзкага з тымі, хто піў піва на вуліцы? Відаць, пасылалі ў канцлагер у Бярозу-Картузскую як бальшавіцкіх шпіёнаў.

Але, "нашаніўцы" таксама бачаць у наступстве перспектыву для змены менталітэту. Дакладней – рэтраспектыву, бо, калі міліцэйскія начальнікі спадзяюцца на ментальны зрух на 500 км у заходні бок, то кансерватыўныя аглядальнікі "Нашай нівы" свята верацъ, што піўная дысцыпліна вароціць райскія часы Другой Рэчы Паспалітай. То бок будзе зрух у часе на 70 год назад.

*NAVINY.BY* зноў-такі праявілі сапраўдны еўрапацэнтрычны энтузіязм.

"Калі алкаголь лёгка купіць, і ён танны, то да яго ўжывання будзе актыўна прыцягвацца найперш моладзь, – падкрэсліў галоўны нарколаг Мінздароўя Аляксей Аляксандраў, адзначыўшы пры гэтым, што забароны легкадаступнасці спіртнога і піва ў Еўропе дзейнічаюць даўно. – Мы ідзем у нагу з усімі, хто абараняе сваіх дзяцей ад негатыўных наступстваў, якія прыносяць здароўю слабаалкагольныя напоі і піва".

Тое, як бабуля-Еўропа дбае пра маральнае выхаванне сваіх унучкоў усім добра вядома. Узяць хаця б нядаўнюю ініцыятыву швейцарскіх фармацэўтаў. На мінулым тыдні выпусцілі вялізную партыю прэзерватываў для 12-14-гадовых падлеткаў. Матывацыя была простай: у дадзенага кантынгенту недарослых еўрапейцаў яны будуць карыстацца гарантаваным попытам.

Газета *"Гастроном"* проста кінула сваіх былых партнераў – піўных і джынтонікавых магнатаў, дэманструючы нейкую непадрабляльную радасць. Такую, як калісьці, у сталінскія часы, выказваў "добразычлівец", калі "чорны варанок" спыняўся каля дома суседа.

"Што рабіць? Што рабіць, што рабіць... Устрымлівацца. Бліжніх паважаць трэба. А што да клопатаў вытворцаў піва і слабаалкагольных напояў, няхай самі выкручваюцца. Гандаль прыцягваюць, супрацоўніцтва ў мясцовых уладаў просяць, сетку фірмовых кафэшак адчыняюць."

Як бачым, ніхто з беларускіх СМІ не працягнуў руку айчыннаму півавытворцу, не падбадзёрыў цёплым словам падтрымкі. Між тым піваварэнне і піваспажыванне – гэта вельмі значная крыніца даходу дзяржаўнага бюджэту. Узнікае вялікі сумнеў, што гэтую страту можна будзе кампенсаваць адзіна толькі штрафамі тых, хто яшчэ не да канца зразумеў сутнасць таго, што адбываецца.

Крыўдна адно: аўтары названых опусаў атрымаюць ганарары і ўсё адно пойдуць "па піву".

---

***ЗА МЯЖОЙ***

# Гонар Пхеньяна

## А ў гэты час у Паўночнай Карэі адчуваюцца зачаткі піўной лібералізацыі

**Сярод вельмі невялікай колькасці рэкламных ролікаў на паўночнакарэйскім тэлебачанні вылучаецца рэклама піва Taedonggang пад слоганам "Гонар Пхеньяна".**

А пачыналася ўсё празаічна. З прычыны нzdružнасці... 

Кантрабандна вывезеная бутэлечка "Гонару Пхеньяна", выменаная на мяшочак рысу ў рабочага Пхеньянскага трактарнага заводу.

**“Я лічу, што піва прыдумалі дзеля прыемнасці. А на сённяшні час гэта яшчэ і самы даступны напой. Віскаром асоба не набалуешся, “Хэнэсі” я толькі на карцінках бачыў, а вось піва – самы чэсны напой.”**



Гутарыў: Зміцер Плян
Фота: Піўны Дух

## Лявон Нарушэвіч:

# “ЧАЛАВЕК МОЖА ЗДРАДЗІЦЬ ЦІ ПАКРЫЎДЗІЦЬ, А ПІВА – НІКОЛІ”!

**З Лявонам Нарушэвічам – лідэрам авангарднага гурта “Князь Мышкін” мы сустрэліся ў піўняку “Лісья Нора”, дзе за куфлем-другім паразмаўлялі пра піва, творчасць, музыку, вандроўкі…**

– Гурт “Князь Мышкін” узнік напачатку 90-х. Што адбывалася ў той час на айчыннай музычнай сцэне?

– Тады назіралася масавае стоўпатварэнне разнастайных музыкаў. Гэта адбываецца заўсёды, калі грамадства адчувае нейкія эканамічныя ці эстэтычныя праблемы. Практычна ў кожным кутку Беларусі штосьці адбывалася, праходзіла шмат фестываляў, актывізаваліся не толькі музыкі, але і мастакі, літаратары.

– А якое месца ў творчасці тагачасных музыкантаў займала піва?

– Ну, піва, як самы даступны напой, заўсёды адыгрывае значную ролю, павер мне. Канешне, ёсць такія экстрэмалы, якія распачынаюць з гарэлкі. Але ж мы – людзі простыя, перавагу аддаем менавіта піву. Яго можна захапіць у вандроўку, ім можна ўратавацца ў спёку ці выпіць пасля канцэрту. Дарэчы, узгадаў! Як памятаю, быў тады 1993 год. Лета. Спёка. Іду я і бачу: прадаецца піва бочкавае. Халодненькае, роднае… Смаката!

Але ж з півам варта быць асцярожным. Неяк паехаў я да сваіх сяброў у Сухарава. Узялі па трохлітровым слоіку піва, насмажылі бульбачкі, і заселі на кухні за размовай. Выйшаў я ад сяброў дзесьці каля гадзіны ўначы: ні рук у мяне, ні ног, трохлітровік унутры, мозг адсутнічае. І тут, сапраўды, як кажуць урачы, норма павінна быць.

Я лічу, што піва прыдумалі дзеля прыемнасці. А на сённяшні час гэта яшчэ і самы даступны напой. Віскаром асабліва не набалуешся, “Хэнэсі” я толькі на карцінках бачыў, а вось піва – самы чэсны напой.

Піва заўсёды было разам з музыкантам. І тады і цяпер, як правіла, пакоі за сцэнай забітыя піўнымі бутэлькамі.

– Ці змяніліся піўныя “расклады” з тых часоў?

– Канешне. Зараз шмат таленавітых музыкантаў пачалі ездзіць з турамі па свеце. І я такім гуртам па-добраму зайздрошчу: яны могуць паспытаць піва і ў Галандыі, і ў Швейцарыі. Ды і мы, калі выязджаем на нейкія гастролі ў замежжа, дык першае, што робім, ідзем у кавярню, заказваем мясцовага хаўчыку, піва, і

атрымліваем задавальненне ад такога судакранання. Гэта пашырае кругагляд.
Самае смачнае піва я каштаваў у Рызе. Нездарма ў старых казках які-небудзь Йонас ездзіў у Рыгу па піва. У гэтым сэнсе даволі дзіўна, што літоўскае піва кепскае, на мой густ. Здавалася б, такія багатыя традыцыі, а піва не тое… А з Рыгі тады я захапіў колькі пляшачак з сабой. Схаваў у гітарны кейс, і звінеў як дурань на мытні.
<u>– Дарэчы, якое піва табе больш падабаецца?</u>
– Ну, я ўвогуле люблю піва. Я – сапраўдны калекцыянер піўных уражанняў. Вось піва, якое стаіць шэрагамі ў крамах, схаванае ў бляшанкі і бутэлькі, дык на яго і глядзець не хочацца. Мне больш даспадобы піва свежазваранае, жывое. Але ж музычная тусня, у аснове сваёй, душыцца абязлічаным, растыражаваным напоем.
Я лічу, што піва – самы карысны і здаровы напой. Выпіў куфаль і пад'еў, і павесялеў. Часам піва нават лепш за няважнага сябра. Чалавек можа здрадзіць ці пакрыўдзіць, а піва – ніколі.
Але ж гэта я толькі пра "сапраўднае піва". А то, памятаеш, з'явілася "Балтыка Мядовая"? Дарэчы, зрабілі такі незвычайны прадукт: невядома як яго піць, з чым яго піць. Не люблю я заспіртаванае піва. Не разумею яго. Хочацца нажэрціся, дык прапусці стопачку-пятую, супакой душу. Ці было такое фруктовае піва… не прыжылося неяк яно ў нас.
<u>– Як ты ставішся да забароны піцця піва на вуліцах?</u>
– Пытанне складанае. З аднаго боку не бачу аніякіх перадумоў для такой забароны. На маю думку, ёсць рэчы, якія варта забараняць, але ж піва… Піва сёрбаюць тысячагоддзямі, і ад яго яшчэ ніхто не памёр. Вось нядаўна прайшла такая інфармацыя, быццам любы алкаголь знішчае мозг. Бздура нейкая! А стрэс? А жыццё? А вырадкі, што соўгаюцца на вокал? Ад гэтага мозг не знішчаецца?! Лічу, што ўжыванне піва – напою, які прыносіць задавальненне і жаданне крахтануць, не павінна забараняцца.
З іншага боку. Ідзеш па вуліцы, і бачыш, як п'юць піва. З такімі людзьмі, у большасці, і размаўляць не хочацца. Я часта езджу на электрычках. І вось калі, вяртаюся ў Мінск, дык назіраю, як горад паглынае натоўпы людзей, а потым гэтыя натоўпы паглынаюць таннае піва. І мне асабіста непрыемна гуляць па горадзе, калі на вуліцах бухаюць натоўпы з малых гарадкоў і вёсачак Беларусі. Асабліва непрыемна падчас гарадскіх ці дзяржаўных святаў.
Да таго ж, у Мінску няма месцаў, дзе можна выпіць піва з сябрамі. У большасці выпадкаў піць піва ў нейкім бары проста бессэнсоўна і дорага.
<u>– Лявон, ці сочыш ты за музычнай сцэнай?</u>
– Я сачу за ўсімі музычнымі навінкамі. Час ад часу з'яўляюцца цікавыя праекты. Мне больш падабаецца сучасная сімфанічная музыка, эксперыментальныя плыні. Зараз зноў наступіў нейкі цяжкі, дэпрэсіўны перыяд для нашай краіны. І пачалі з'яўляцца цікавыя маладыя людзі, якія па-іншаму ставяцца да інструменту, да музыкі. Той жа самы "Гурзуф". Файная каманда, прафесіяналы, якія скончылі кансерваторыю. Хлопцы прадстаўляюць сучасную, цікавую музыку еўрапейскага ўзроўню.
На мой погляд, беларуская музыка сёння знаходзіцца ў еўрапейскім кантэксце, яна нічым не горш за тыя ж немецкія ці англійскія эксперыменты.
<u>– Як зазвычай праходзяць вашыя выступы?</u>
– Мы заўсёды выступаем, калі з'яўляецца ўнутраная неабходнасць, жаданне. Часта запрашаем знаёмых музыкантаў, паэтаў, з якімі разам выступаем. Вось хутка будзе сольны канцэрт з удзелам прадстаўнікоў нашага паэтычнага авангарду Джэці і Віктара Жыбуля.
Зазвычай мы выходзім на сцэну, адзін на аднаго нават не глядзім, але слухаем. Адчуваем адзін аднаго, кантактуем нотамі. Для мяне важна, каб чалавек, з якім я знаходжуся на сцэне, быў энергетычна мне блізкі. Тады ўсё атрымліваецца. Канцэрт – гэта ўнікальная магчымасць зносін з блізкімі і цікавымі мне людзьмі.
<u>– А глядач таксама ўдзельнічае ў гэтых зносінах?</u>
– А гледача не так ужо і шмат. Але тыя хто прыходзіць, ім не трэба нічога казаць, тлумачыць. Яны ціхенька зойдуць, сядуць у куце і слухаюць. Глядач таксама ўплывае на нас. Людзі, якія прыйшлі на канцэрт, потым пішуць на форумах свае ўражанні, выкладаюць у сетцы фатаграфіі. Гледачы ці слухачы ў любым выпадку ўплываюць на нас, дзесьці дапамагаюць нам развівацца. Добры глядач заўсёды дапамагае, падтрымлівае. У той жа час два-тры гада могуць сапсаваць выступленне.
<u>– Прыгадай самае яскравае ўражанне ад канцэрта.</u>
– А іх шмат. Пра некаторыя канцэрты захаваліся нават шальныя ўражанні. І не толькі пра канцэрты, але і пра людзей, з якімі разам гралі. Вось, напрыклад, узгадваю, як адыгралі адзін канцэрт з цяпер даволі вядомым кампазітарам, які піша для нашых "зорак". І вось мы адыгралі, нам добра, а яго потым ледзь не з гіпертанічным крызам з залы выносілі. Што з чалавекам адбылося, не ведаю. Ён вельмі добры, прафесійны музыкант, але з нашай музыкай ... Мы ж не граем загадзя завучаныя кампазіцыі і партыі, а ствараем музыку тут і цяпер, галава пастаянна працуе.
Або вось, успамінаю цудоўны канцэрт у Маскве, на Фестывалі Любой Музыкі. Арганізатары нас накармілі, напаілі. Мы выйшлі на вуліцу, а нам ужо нічога і не хочацца. Прыехалі ў цэнтр Дом, праспаліся там на матрацы, і потым такі незвычайны канцэрт адыгралі.
Цікавы канцэрт сыгралі ў эфіры праграмы Антрапалогія на НТБ. Цікавы тым, што "стромны", адказны.

**<u>Самае смачнае піва я каштаваў у Рызе. Нездарма ў старых казках які-небудзь Йонас ездзіў у Рыгу па піва. У гэтым сэнсе даволі дзіўна, што літоўскае піва кепскае, на мой густ. Здавалася б, такія багатыя традыцыі, а піва не тое… А з Рыгі тады я захапіў колькі пляшачак з сабой. Схаваў у гітарны кейс, і звінеў як дурань на мытні.</u>**



## Князь Мышкін

**Беларускі гурт інтуітыўнай імправізацыі "Князь Мышкін" існуе каля 19 гадоў. Яго заснавальнікам і ідэйным кіраўніком з'яўляецца гітарыст Лявон Нарушэвіч, музыканты, якія ўдзельнічаюць у імправізацыях, пастаянна мяняюцца. Каманда перайграла на мностве фестываляў (у іх ліку "Сырок–5" у Маскве, "Скіф–5" ў Санкт-Пецярбургу, "Альтэрнатыва" ў Празе і інш.), выпусціла дыскі на амерыканскім лэйбле Wood Records, маскоўскіх Geometria і AKATZIA і інш.**

**Месца пад куфаль піва**

## ПІЎНАЯ АФІША
## АД КЛУБА "ГРАФІЦІ"
## 11.03 – 23.03.2010

**<u>Чц, 11 сакавіка</u>**
19:00 – TrashRock: гурт «Кассиопея»

**<u>Пт, 12 сакавіка</u>**
18:00 – IndieRock
23:00 – FoF: DJ Laurel & G100F

**<u>Сб, 13 сакавіка</u>**
18:00 – Blues: гурт «Califonia Shores» з удзелам Ігара Варашкевіча
22:30 – Drink'n'Dance party

**<u>Нд, 14 сакавіка</u>**
18:00 – Modern Folk: гурт «Нагуаль»

**<u>Пн, 15 сакавіка</u>**
19:00 – Live Rock ад Berserka

**<u>Ат, 16 сакавіка</u>**
19:00 – Graffiti Open Music Fest: The Fantastiques, Ann Core, Glofira

**<u>Ср, 17 сакавіка</u>**
19:00 – Jazz: гр.Chiefs Band

**<u>Чц, 18 сакавіка</u>**
19:00 – Рускі рок: гурт «Эверест»

**<u>Пт, 19 сакавіка</u>**
19:00 – Rock: The UNB
23:00 – FoF: Eye-Q & special guest

**<u>Сб, 20 сакавіка</u>**
00:29 – FoF: Eye-Q & special guest
18:00 – Blues: гурт «The Road Dogs»
22:30 – We Love DM: Violator's party

**<u>Нд, 21 сакавіка</u>**
14:00 – L-cinema
18:00 – Another Music: Tok Rukoo, The Stampletons, Artefact

**<u>Пн, 22 сакавіка</u>**
19:00 – HipHopBlues: Alaska Kalanen (USA/Finland)

**<u>Ат, 23 сакавіка</u>**
19:00 – Graffiti Open Music Fest: Re1ikt, StepHall, «Батискафъ»

# RAMMSTEIN: СВЯТА ПАРНУХІ І ЦЕМРАШАЛЬСТВА Ў МІНСКУ

**А вось і тое, што адпавядае нашаму разуменню маралі і ролі ў ёй Грамадскага савету па маральнасці!..**





**Такога семявывяржэння Мінск сапраўды яшчэ не бачыў!**

**<u>Грамадскі савет па маральнасці выказаўся супраць правядзення канцэрту RAMMSTEIN у Мінску, які не гледзячы на гэта, усё ж такі адбыўся 7 сакавіка .</u>**
*"Рашэнне везці ў Мінск RAMMSTEIN – гэта памылка, якая можа нам дорага абыйсціся. Па перакананні чальцоў савету, творчасць групы з'яўляецца непрыкрытай прапагандай гомасэксуалізму, мазахізму і іншых вычварэнняў, жорсткасці, гвалту і непрыстойнасці. На канцэртах групы часцяком ужывую дэманструюцца акты сукуплення паміж мужчынамі, семявывяржэнне і перайманне нацыстам",* – гаворыцца ў тэксце заявы гэтага сумнеўнага паводле паўнамоцтваў органа.
Відавочна, што калі б не нямецкія скамарохі, ніхто б і не здагадаўся пра існаванне беларускай маральнасці. Такім чынам, музыкі зрабілі не толькі мастацкі ўнёсак у сусветную культурную спадчыну, але і далі магчымасць прапіярыць сябе айчынным маралістам, якія ў сваю чаргу дадалі ў імідж папулярных выканаўцаў новы змест. Бо калі раней калектыў славіўся як творца гучных гукаў, то цяпер, дзякуючы заяве савету па маральнасці, кліпы RAMMSTEIN зоймуць сваё ганаровае месца ў спісах забароненага да паказу ў РБ. Спісы фільмаў, забароненых да паказу ў РБ, дарэчы, складае той самы савет, не асабліва ўнікаючы ў змест фільму, а мяркуючы хіба толькі па назвах, дзе на думку маралістаў ёсць намёк на непрыстойнасць.
Хутчэй за ўсё, такім занятым асобам, як маралісты няма часу займацца падрабязным разглядам матэрыялу, а тым больш аналізам непрыстойнага тэксту на замежнай мове. Пад пільнае вока абаронцаў беларускай маралі трапіў не зусім дакладны пераклад вядомага RAMMSTEIN'аўскага хіта „Du hast!" ў версіі "НЕЙРАДЗЮБЕЛЯ" –"Бухаст!". А гэта ў святле знакамітай пастановы ад 23 лютага прамы заклік да грамадзянскага непадпарадкавання.

# Хлусня як калектыўнае беспрытомнае




**Тыповы абразчык заходняй антыпіўной прапаганды, калі звычайны пераждр гамбургерамі ды хот-догамі спісваецца на ні ў чым не павінны пенны напой.**
**На плакаце:**
**"Ці ведаеце вы, што людзі, якія рэгулярна перавышаюць рэкамендаваную норму алкаголю больш схільныя да страты фігуры. Дозы. Усе яны накапляюцца"**

**У нашым агульным уяўленні ўкаранілася некалькі паняццяў, аб праўдзівасці якіх ужо ніхто моцна і не задумваецца – такімі непахіснымі здаюцца гэтыя "ісціны". Іх у нашай свядомасці, насамрэч, безліч. Мне ж хацелася закрануць з маімі чытачамі даволі актуальную, у свеце нядаўняй забароны распіцця ў грамадскіх месцах, тэму – спажыванне піва. Папулярны сярод усіх узростаў напой даўно ўжо стала займае месца ў нашай свядомасці, абросшы разнастайнымі міфамі ды легендамі. Але ж пры дэталёвым паглядзе на тое, што, здавалася б, ужо даўно вядома, высвятляецца, што многія рэчы самыя што ні на ёсць прыдуманыя забабоны, чысцюткая няпраўда.**

## Хлусня №1: Піўное пуза ці падарванае здароўе.

Поўная хлусня!!! Зрабілі з піва ледзь не асноўнага Зялёнага Змея, ворага нармальнага цвярозага грамадства, які толькі і чакае падарваць асноўныя каштоўнасці маладой беларускай дзяржавы. Яно і зразумела – калі кожны прэтэндуючы на арыгінальнасць алкаш будзе пракураным голасам сіпець: "Піва без водкі...", чаго ж чакаць. Дык вось, каб супакоіць дбаючых аб дабрабыце краіны людзей, спяшаюся данесці да аўдыторыі што, спецыялісты пералічваюць жывое нефільтраванае піва сярод самых здаровых прадуктаў, спажываных у ежу.

Канцэнтрацыя шкодных рэчываў у піве ніжэйшая нават чым у сыравіне, з якой яно варыцца, паколькі ў працэсе браджэння застаецца толькі лепшае, што могуць даць ячмень, хмель і вада.

Як ужыванне піва ўздзейнічае на чалавека? Чаго больш – шкоды ці карысці? Чалавецтва ўжо даўно шукае адказы на гэтыя пытанні. Аб тым, наколькі піва добры, здаровы і каштоўны напой сведчыць шмат навуковых даследаванняў. Але перш чым пазнаёміцца з імі, важна ўспомніць, што пры ўжыванні піва трэба ведаць меру.

Жывое піва змяшчае больш за трыццаць розных мінералаў і мікраэлементаў. У адным літры трунку – амаль палова дзённай дозы магнію, 40% фосфару і 20% кальцыю.

Магній і кальцый затрымліваюць утварэнне жоўчных і ныркавых камянёў. Натрый і калій бароняць арганізм ад ацёкаў і аказвае мачагоннае дзеянне.

Таксама ў піве маюцца раслінныя і малочныя кіслоты. Яны дапамагаюць стравaванню, пазітыўна ўплываюць на працу кішэчніка і знішчаюць бактэрыі.

Чэшскія медыкі рэкамендуюць піць піва кожны дзень людзям, якія перанеслі аперацыю на страўнікава-кішачным тракце. У Германіі, Аўстрыі і Даніі людзям, што працуюць у шкодным для здароўя асяроддзі, выдаюць нефільтраванае безалкагольнае піва. Яно прадухіляе дысбаланс соляў арганізму.

Доктар Керціс Элісан, дырэктар інстытута здаровага ладу жыцця ў Бостанскім універсітэце, лічыць, што ўжыванне піва – гэта адзін са складальнікаў здароўя чалавека. Ён сцвярджае, што пры выкананні некалькіх умоваў – рэгулярных фізічных нагрузках, збалансаваным сілкаванні, адмаўленні ад тытуню, адсутнасці лішняй вагі – спажыванне піва на 80% дапамагае знізіць рызыку ўзнікнення двух самых распаўсюджаных захворванняў: хваробаў сэрца і цукровага дыябету.

Д-р Элісан лічыць, што частае (нават штодзённае) ўжыванне піва карысней, чым ужыванне гэтага напою час ад часу. Галоўны аспект – гэта, пэўне ж, колькасць выпітага. Для кожнага чалавека яна індывідуальная, але шматлікія медыкі раяць арыентавацца на ўжыванне 25 г чыстага спірту ў дзень, што змяшчаецца ў 0,5-0,7 літрах піва. Для тых, хто п'е піва ці іншыя алкагольныя напоі ў памяркоўнай колькасці, рызыка захворвання дыябетам зніжаецца на 33-56% у параўнанні з няп'ючымі. Але, не будзем хаваць, тыя, хто злоўжывае алкаголем дасягаюць адваротнага эфекту: рызыка захворвання дыябетам павялічваецца на 43%.

У эксперыменце, які надрукаваў аўтарытэтны медыцынскі часопіс Annals of Nutrition and Metabolism, прымалі ўдзел 57 здаровых мужчын і жанчын, якія ўстрымліваліся ад ужывання піва 30 дзён. Пасля гэтага ўдзельнікі праекту пачалі піць піва: жанчыны 330 мл на дзень, а мужчыны – 660 мл. Пасля трыццацідзённага курсу ўжывання піва паказчыкі імуннай сістэмы па многіх параметрах палепшыліся, асабліва ў жанчын.

У нашыя дні ў чэшскіх і аўстрыйскіх шпіталях у курс лячэння хворых на ўралагічныя захворванні пацыентаў уключана піва.

Пры лячэнні мачакаменнай хваробы эскулапы рэкамендуюць выпіваць па паўшклянкі піва ўдзень, перад ежай, дабаўляючы ў напой адну-дзве кроплі лімоннага алею.

Навукоўцы з Бостана (ЗША) ужо ў 1993 годзе высветлілі, што вывядзенне камянёў з нырак напрамую звязана з актыўным ужываннем вадкасці. Але цяпер звярніце ўвагу на лічбы: пры штодзённым ужыванні двух літраў вады рызыка ўзнікнення камянёў у нырках зніжаецца на 40%, а 0,5 л піва на 62%!!!

### Чарговая правакацыя

**Мужык, які з'еў матабольны мяч, выдае сябе за старога аматара "Лідскага Жыгулёўскага". За ўдзел у гэтай антыпіўной афёры ён атрымаў «ганарар» – скрыню пладова-ягаднага віна.**




### Маладосць назаўжды

**З-за штодзённага і штогадовага ўжывання піва "Spaten" мюнхенскім пенсіянеркам і ў свае 70 даводзіцца заўжды насіць з сабой пашпарт, каб ім налілі іхнага любімага напою.**




### Другое дыханне

**Удзельнікі антыатамнага марафону Мінск–Астравец успаўняюць недахоп вадкасці ў арганізме асартыментам прыдарожнага піўнога ларка.**




# Дзе знайсці газету "Піўная" і п...




**Паб-клуб "ГРАФІЦІ"**
г. Мінск,
зав. Калініна, 16
(ст.М."Парк Чалюскінцаў")
Кожны вечар жывыя канцэрты, відэапраектар, свежыя выданні
Штодня 11:00 – 23:00
Пт, Сб да 2:00




**Кафэ-бар "ДОБРЫЯ МЫСЛІ"**
г. Мінск,
вул. Магілёўская, 12
(ст.М."Інстытут Культуры")
Зменныя мастацкія выставы, продаж карцін, кніг, сувеніраў, кожны вечар – жывая музыка
Штодня 11:00 – 23:00




**Клуб "РЭАКТАР"**
г. Мінск,
вул. В.Харужай, 29
Правядзенне канцэртаў і вечарын, дыскатэк, карпаратываў, бокс-мерапрыемствы, 4 бары
Штодня 22:00 - 06:00




**Клуб "R-CLUB"**
г. Мінск,
вул. Сурганава, 26
(ст.М."Акадэмія Навук")
Правядзенне канцэртаў, вечарын, прэзентацый, банкетаў
Штодня 11:00 – 05:00




**Страўня "КАМЯНІЦА"**
г. Мінск,
вул. Першамайская, 18
Утульны паграбок, вялікі TV-экран, трансляцыя ўсіх значных падзей, караоке, княская зала, беларуская кухня, жывое піва
Штодня 12:00 - 23:00




**Бар-рэстаран "KABAB.JI"**
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 71
(ст.М. "Акадэмія Навук")
Піца, шашлыкі і стэйкі са свініны, цяляціны, асятрына і грыбы, прыгатаваныя на жывым агні
Штодня 10:00 – 03:00




**Амерыканскі бар "DOO DAH KING"**
г. Мінск,
вул. Берсана, 14
(ст.М."Пл. Незалежнасці")
Амерыканская і мексіканская кухні, музычныя вечарыны, няма напояў, у якіх няма алкаголю
Штодня 11:00 - 05:00




**Кавярня "ГАБРАВА"**
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 81
(ст.М. "Акадэмія Навук")
Банкетнае абслугоўванне, вечарыны, прэзентацыі, балгарская кухня, грыль, разліўное піва
Штодня 10:00 – 24:00,
Сб, Нд 11:00 - 24:00



**Каф... "ПР...**
г. Мі...
вул. ...
Вечар...
фурш...
руска...
Што...

Месца пад куфаль піва




На Брусельскім сімпозіуме еўрапейскія і амерыканскія светачы навукі прыйшлі да адзінай высновы – піва здольнае перамагчы рак.
Японскія даследчыкі даказалі, што яно выводзіць з арганізму канцэрагенныя рэчывы і зніжае верагоднасць захварэць ракам у 2-3 разы. Дзеля прафілактыкі анкалагічных захворванняў медыцына рэкамендуе выпіваць 0,3 л піва ў дзень.
Вось такія цікавыя факты, якія супрацьлегла разыходзяцца са звыклымі ўяўленнямі аб піве, што тыражуюцца сёння разнастайнымі беларускімі СМІ. Аказваецца, піць піва – карысна! Праблема не ў ім, а ў нашай "бестармазоўнасці". Згадзіцеся, што нерэальна спыніцца пры "адчыненай лейцы", тут адзін канец – піць да страты прытомнасці, потым ачуняць – ды зноў да забыцця...

## Хлусня №2: Піва – не жаночая справа.

Памятаю сваё бурную маладосць у дзевяностых гадах мінулага стагоддзя: убачыць жанчыну на якой-небудзь піўнусе ў Мінску тое ж, што назіраць Другое Прышэсце Майкла Джэксана. Яно і зразумела – такіх рыгалавак, што былі ў позне- і постсаўковыя часы, зараз у сталіцы не знойдзеш. Цяперака ўжо ёсць дастаткова добротных месцаў, дзе можна культурна пасядзець ды выпіць келіх са сваёй сяброўкай. І гэта не толькі прыемнае баўленне часу, але і карыснейшая справа! Навукова даказана. Супрацоўнікі універсітэту Эстрэмадуры (Іспанія) выявілі, што ў жанчын, якія п'юць піва рэгулярна, шчыльнасць касцей вышэй, чым у цвярозніц. Пацвярджаюць гэта іх калегі з Каліфарнійскага ўніверсітэту. Паводле іх звестак у светлым ячменным піве змяшчаецца шмат крэмнію, які захоўвае ад развіцця астэапарозу (захворванне, ад якога часцей церпяць жанчыны сталага ўзросту).

## Хлусня №3: Піва – сіла, спорт – магіла.

Гэтаксама няпраўда! Выпіць пінту пасля трэніроўкі ці гульні – звычайная справа, гэта ў нас так "заржэмыліі" спартоўцаў, што адзін раз дарваўшыся – на тыдзень "трэніруюцца пачорнаму". Іспанскія даследчыкі лічаць, што піва лепш стабілізуе ўзровень вадкасці ў абязводжаным арганізме, чым вада. Прафесар Эманюэль Гарсон з універсітэту Гранады сцвярджае, што піўныя вугляводы дазваляюць вярнуць страчаныя калорыі значна хутчэй. Ён прапанаваў сваім студэнтам рабіць фізічныя практыкаванні ў той час, як тэмпература паветра дасягала 40°С. Пасля чаго адной частцы групы далі па пінце піва, другая абламалася, і атрымала такую ж колькасць вады. Дык вось, узровень вадкасці аднавіўся лепш і хутчэй у тых, хто піў піва. Таму навуковец прапануе спартоўцам пасля трэніровак ужываць ячменны напой. Піва ўжо стала часткай рацыёну спартоўцаў у многіх краінах. У Чэхіі і Славакіі піва ўключана ў меню хакеістаў. Італьянскія спартыўныя медыкі дазваляюць адзін літр піва на дзень, што паляпшае здольнасць канцэнтрацыі, скарачае час рэакцыі і павялічвае мускульную сілу.
Прапаную і нашым удзельнікам спартыўных зборных прапісаць піва ў рацыёне, мо хоць гэта нейк дапаможа дасягнуць якіх-небудзь прыстойных рэзультатаў. Ва ўсялякім разе горш ужо ўсё адно не будзе...

***

"Піўны алкагалізм", "піўны жывоцік", "піва зранку", "піва многа не бывае", – невялікі пералік тых выразаў і паняццяў, якія гадамі ўбівалі нам у нашу кволую свядомасць. Быццам нейкая пякельная рэкламная кампанія прайшлася па нашых галовах: дзе піва – там гарэлка і цыгарэты. Адназначна, як казаў класік – "Святая Троіца" – ні даць, ні ўзяць. Канешне, у такім асяроддзі алказлоўжывання і тытунёвага дыму піва атрымала ўстойлівую адмоўную рэпутацыю і ўспрымаецца зараз у вобразе ворага нармальнага існавання звычайнага сярэднестатыстычнага беларуса. Між тым вынікі доследаў, прыведзеныя вышэй, даюць нам багацейшую ежу для разважанняў на тэму "што такое добра і што такое блага". І я спадзяюся, што нашыя чытачы ў стане адрозніць аб'ектыўную інфармацыю ад мэтанакіраванай прапаганды, і кожны сам для сябе знойдзе адказ на гэтае спрадвечнае пытанне.

## Піўная бляшанка адзначае 75-гадовы юбілей

Тэхналогія кансервавання піва існавала і раней, аднак амерыканскі сухі закон (1919 – 1933) надоўга затармазіў даследаванні ў гэтай галіне. Першай стала невялікая півоварня Gottfried Krueger Brewing Company, якая выпусціла ў 1933 годзе пробную партыю ў 2000 штук. Але ў продаж яны так і не паступілі – у півавараў не хапіла цярпення і яны выжлукцілі ўсё, не выходзячы з заводу. Толькі ў пачатку 1935 года піва ў бляшанках пад брэндам "Krueger's Finest Beer" трапіла да звычайнага пакупніка. Спачатку банка выглядала як звычайная кансерва, быў нават прыдуманы спецыяльны нож, якім можна было зрабіць дзірку, а на бляшанцы месцілася інструкцыя. Выраблялася ж яна з трох кавалкаў сталі, адпаведна, вага тары была каля кілаграму (35 унцый). Так што захапіць пасля працы пару ўпаковак піўка маглі дазволіць сабе толькі сапраўдныя атлеты. Алюмініевая ж бляшанка з'явілася толькі ў 1958 годзе, а ў 1963 дапёрлі дадаць кальцо для адкрывання. Вось з таго часу піўная бляшанка набыла цяперашні выгляд і больш ужо амаль не змянялася.




Нялёгка было пакаштаваць такога піва дзе-небудзь на лавачцы...





## Тым, што велізарная колькасць людзей з'яўляюцца аматарамі піва, нікога, вядома ж, не здзівіш. Аднак існуе цэлая субкультура, якая знаходзіць нешта большае ў піўной культуры акрамя ўласна пеннай вадкасці.

# ЭТЫКЕТКІ, КРОНЭНКОРКІ ДЫ ІНШЫЯ БІРДЭКЕЛІ...

**Да піва можна ставіцца па-рознаму... Можна яго не піць, спасылаючыся на тое, што яно горкае альбо што ад яго паўнеюць. Можна піць яго без разбору, выбіраючы моцныя гатункі, альбо ўжываць у якасці лекавага сродку штораніцы. Можна ставіцца да піва з сімпатыяй, папіваць яго рэгулярна, аддаючы перавагу тым альбо іншым гатункам ці вытворцам. А можна любіць піва ва ўсіх яго-ных праявах і цікавіцца ўсім, што з ім звязана: гісторыяй і развіццём, новымі гатункамі і маркамі, разнастайнасцю этыкетак і коркаў, куфляў і бірдэкеляў і г.д. І менавіта пра тых, хто ўспрымае піва не толькі з пункту гледжання ўжывання, пойдзе далей гаворка. Называюць яны сябе бірафіламі альбо калекцыянерамі піўной атрыбутыкі.**

Да калекцыянавання піўной атрыбутыкі прыходзяць па-рознаму. Хтосьці, выпіўшы бутэлечку піва, вырашае захаваць на памяць этыкетку і, адмачыўшы яе пад струменем цёплай вады, пакідае падсохнуць між старонак тамоў бессмяротнага класіка. І, праз нейкі час, быццам экземпляры школьнага гербарыя этыкеткі з'яўляюцца прадметам гонару ўладальніка, становячыся асновай калекцыі, якую не сорамна паказаць таварышам пад чарговую бутэльку піва, са словамі "І вось усё гэта я піў..."

Альбо яшчэ варыянт: адкаркаваўшы бутэлечку і не знайшоўшы сметніцы, куды можна выкінуць корак, спажывец, вядомы культурнымі інстынктамі, суне яго ў кішэню. Праз нейкі час, знайшоўшы ў кішэнях жменю коркаў, патэнцыйны калекцыянер заўважае, што іх багата і яны розныя. І рука ўжо не падымаецца выкінуць іх у сметніцу.

Іншы прыклад: калі вы наведваеце рэстаран альбо бар і заказваеце піва, вам прыносяць запацеўшы куфаль і ўсталёўваюць яго на круглы альбо квадратны экземпляр порыстага картону з выявай піўнога лагатыпу. Пацягваючы піва, вы разглядаеце піўную падстаўку, якая мае назву БІРДЭКЕЛЬ. Згодна з сухімі лічбамі статыстыкі, 74,5 % наведнікаў бараў выносяць падстаўкі з сабой. Здагадайцеся, навошта...

Бывае і так: вашыя родныя, згубіўшыся ў пошуках падарунку на 23 лютага альбо на новы год, рана ці позна акцэнтуюць свой погляд на піўным куфлі, якіх у апошні час нямала на паліцах нашых крамаў. І ўзгадаўшы, што вы любіце піва, хапаюць куфаль і спяшаюцца да касы. Але вы маеце шмат сваякоў, сяброў і калегаў па працы, якія таксама ведаюць пра вашу цягу да піва. І вось, праз нейкі час, за шклом вашага серванту красуецца невялікая калекцыя піўных куфляў і бакалаў. І вы самі ўжо пачынаеце пазіраць на піўныя бакалы на паліцах.

Наогул кажучы, калекцыянеры піўной атрыбутыкі – гэта вялікая колькасць людзей па ўсім свеце, якія актыўна абменьваюцца прадметамі калекцыянавання пры дапамозе пошты, асабістых сутрэч, аб'ядноўваючыся ў клубы калекцыянераў, праводзячы сістэматычныя сустрэчы, з'езды, біржы, аўкцыёны, дэгустацыі і г.д.

У Беларусі існуе свой клуб калекцыянераў піўной атрыбутыкі "Піўныя волаты", які аб'ядноўвае каля 20 актыўных калекцыянераў. Удзельнікі клубу пастаянна сустракаюцца, абменьваюцца, праводзяць дэгустацыі піва і наведваюць з'езды ў розных краінах. У 2008 годзе ўпершыню ў Беларусі быў праведзены Міжнародны з'езд калекцыянераў піўной атрыбутыкі ў Мінску. Прыехала каля 80 калекцыянераў, у асноўным з краін блізкага замежжа. У 2009 годзе адбыўся і другі з'езд. Удзельнікаў было ўжо некалькі болей – каля 100 чалавек, што сведчыць пра інтарэс да нашай краіны і да нашага півааварэння. Зараз вядзецца падрыхтоўка да трэцяга з'езду, які запланаваны на пачатак красавіка 2010 года.

У далейшым на старонках "Піўной газеты" ў рубрыцы, прысвечанай калекцыянерам, мы будзем знаёміць вас са светам калекцыянавання піўной атрыбутыкі, прадстаўляць навінкі этыкетак, коркаў, падставак і г.д., публікаваць вынікі дэгустацый піва і расклад з'ездаў і сустрэч, анкеты калекцыянераў і справаздачы пра наведванні з'ездаў у розных краінах, знаёміць з калекцыянерамі і іх калекцыямі. Таксама мы будзем размяшчаць прыватныя аб'явы калекцыянераў. Адным словам, узгадваць пра ўсё, што тычыцца калекцыянавання піўной атрыбутыкі.

### Перамагла "Пражэчка"

Падведзены вынікі конкурсу піўной атрыбутыкі, што адбываўся напачатку гэтага году ў чэшскім Табары. Бірафілы і піваавары з розных краін выбіралі сярод 600 этыкетак, 66 бірдэкеляў і 84 кронэнкоркаў, якія з'явіліся ў мінулым годзе.

Такім чынам. Лепшай піўной падстаўкай стаў дэкель сямейнага мініпівавара з Пацава, лепшая этыкетка належыць нефільтраванаму пшанічнаму піву "Герольд" з Бжезніцэ. А лепшы корак у піва "Пражэчка", якое вараць на Будэёвіцкім бровары.

У сустрэчы прымалі ўдзел 120 калекцыянераў з усёй Чэхіі. Усяго ж па краіне калекцыянаваннем піўной атрыбутыкі займаюцца каля 2000 чалавек. Прычым інтарэс не абмяжоўваецца толькі трыма конкурснымі намінацыямі. Яны збіраюць таксама піўное шкло, асадкі, адкрывалкі, налепкі, каробкі запалак з лагатыпамі і г.д. Карацей кажучы, усё, што мае хоць нейкае дачыненне да піва. Арганізатары конкурсу таксама не прамінулі справакаваць чарговую калекцыйную рэдкасць: у гонар конкурсу для спецыяльнага юбілейнага піва была аддрукаваная партыя этыкетак накладам усяго 300 штук.









Я гатовы трымаць гэты куфаль хоць увесь з’езд!

Месца пад куфаль піва

А я на адзін з’езд больш!

**Ніводзін з'езд калекцыянераў не абыходзіцца без падняцця нармальнага куфля піва “за піва!” Гэта зразумела. Аднак гэта толькі прэлюдыя да галоўнай дзеі: г.зв. “біржы” – месца, дзе калекцыянеры могуць выставіць свае калекцыі, паглядзець іншыя, памяняцца экспанатамі і г.д. На здымках: гэта толькі мізер тых піўных артэфактаў, якія могуць быць цікавымі для рознага кшталту бірамана...**











## “Піўныя Волаты” зарэгістраваныя




**26 лютага Беларускі клуб калекцыянераў піўной атрыбутыкі “Піўныя Волаты”, пра ініцыятыву ўтварэння якога мы пісалі ў папярэдніх нумарах нашай газеты, атрымаў юрыдычны статус.**

Мэтай створанай арганізацыі з'яўляецца не толькі калекцыянаванне, але і прасоўванне культуры піцця піва ў шырокія масы народанасельніцтва, асабліва ў такі крытычны момант.

Адзін з практычных захадаў – Клубам ствараецца экспазіцыя піўной атрыбутыкі, якая ў будучым будзе выстаўляцца ў піўных барах і рэстаранах. Сярод іншых планаваных акцый – арганізацыя з'ездаў калекцыянераў, правядзенне аматарскіх дэгустацый, наведванне піўзаводаў і шмат чаго іншага.

Звязацца з арганізатарамі Клубу можна праз электронны адрас: supok@tut.by

ГІСТОРЫЯ

Шэф! А калі бліжэйшы піўняк?

# ХТО АДКРЫЎ ДЛЯ ЧАЛАВЕЦТВА

## Гісторыя старажытнага п'янства і разгільдзяйства



Егіпецкая жанчына зацірае солад з хмелем для стварэння портэра

Ёсць у нашым жыцці рэчы, да якіх мы настолькі прызвычаіліся, што ўжо і не звяртаем сваёй увагі на іхнюю сутнасць. Ставімся да іх, як да нечага неад'емнага, як да ўласнай часцінкі нашага жыцця. Між тым, пагледзеўшы вакол сябе на з'явы і рэчы крыху іншым зрокам, можна зрабіць такія цікаўныя адкрыцці, зразумець, што цуды вакол нас, а не там, дзе-небудзь і калі-небудзь...

Седзячы пасля цяжкага працоўнага дня дзесьці у піўнусе на Серабранцы, альбо зайшоўшы з сябрамі зняць санлівасць пасля якой-небудзь нуднай лекцыі на аліварыйскі «сасок», ці проста прымасціўшыся дома на канапе перад тэлевізарам і пад аптымістычны голас «Мэтра», чакаючы «толькі перамогі ад нашых хлопцаў», – кожны з нас, узняўшы чарговы куфаль пеннага пітва, наўрадці калі задумваўся аб тым, адкуль яно прыйшло да нас, дзе, як і чаму з'явілася і якім чынам яно, мінуючы стагоддзі, застаецца самым папулярным напоем у чалавецтва і не збіраецца саступаць свае пазіцыі ў будучым...

З'яўленне піва, ці, скажам дакладней, яго прародзіча (патрэбна зазначыць, што сучаснае піва мала падобнае на тое, што гатавалі тады – мутны забрадзіўшы напой з асадкам, кавалкамі зерня ды жмыхам, да таго ж араматызавалі яго разнастайнымі травамі, прыправамі ды мёдам, хмель, як асноўны кампанент з'явіўся намнога пазней), пачынаецца адразу пасля таго, як нашыя продкі пачалі культываваць збожжавыя культуры, гэта адбылося ў эпоху нэаліту. Такім чынам узнікла пытанне пераапрацоўкі гэтых культур для далейшага іх зберагання і спажывання. Вось пры дапамозе працэсу ферментацыі зерня ў вадзе тагачасныя людзі навучыліся гатаваць новы напітак, які па сваіх смакавых, пажыўных якасцях пры прастаце прыгатавання, меў да гэтага і лёгкасць захоўвання. (Гэна, канешне, афіцыйная версія, якая таксама мае права на жыццё, але давайце паразважаем, хто б хутчэй прыдумаў гэты напой – шчаслівы сем'янін, з мэтай зберагчы ўраджай, ці нармальны мужык, якому ўжо абрыдла жонка ці цешча, арава дзяцей і прэснае, аднастайнае жыццё.) Доўгі час лічылася, што першымі вынаходнікамі піва (чытай – першымі «сінякамі») былі старадаўнія егіпцяне. Але апошнія навуковыя адкрыцці сведчаць, што егіпцяне былі не адзіныя хто ведаў сакрэты ферментацыі. Археолагі знайшлі паселішча старажытных шумераў (цывілізацыя, якая існавала ў Месапатаміі, паміж Тыграм і Еўфратам, на тэрыторыі сучаснага Ірака), якое мае ўзрост прыкладна дзевяць тысяч гадоў. Тут былі знойдзены доказы таго, што жыхары вырошчвалі ячмень і пшаніцу і мелі ўсе неабходныя прыстасаванні для вытворчасці піва. Засталіся нават пісьмовыя сведчанні, якія былі выгравіраваныя старажытнашумерскім пісьмом на гліняных таблічках, што апавядаюць пра прысутнасць ячменнага напою ў паўсядзённым жыцці. Прыкладна ў трэцім стагоддзі да нашай эры «сікару», што ў перакладзе з шумерскага значыць «вадкі хлеб», упамінаўся сярод дзесяці рэчаў, якія належала прынесці ў дар мясцовай багіне ўрадлівасці Нінхарра. Нам, беларусам, з нашым «другім хлебам» – бульбай – павінна быць асабліва зразумела, што такую назву не даюць абы-чаму, што піва сапраўды мела значнае становішча ў шумерскім грамадстве. У суседнім Вавілоне півварэнне было развіта даволі шырока, аб гэтым сведчыць існаванне законаў для вытворцаў і прадаўцоў. Напрыклад, тых, хто разбаўляў піва вадой, чакала пакаранне – іх тапілі ў гэтай жа барматусе. Такая ж кара чакала тых, хто завышаў цэны. Ці прадавец няякаснага альбо сапсаванага піва павінен быў сам усе гэта піва выпіць... (Згадзіцеся, што парою і ў нашыя часы такія законы не перашкодзілі б.) А калі хто адважваўся разважаць на палітычныя тэмы, ці, барані божа, крытыкаваць улады, таму проста адсякалі галаву. (Тут усё ясна – Амерыку тады яшчэ не адкрылі, адпаведна – Злучаных Штатаў не было, адпаведна – не было каму ехаць сюды, у гэты край, каб насаджаць дэмакратыю ды ратаваць свет ад хімічнай зброі, да таго ж і нафту тады яшчэ не знайшлі.) Вядома, што падчас





**Не пайшло! Апахмяленне Рамзеса III "Егіпецкім. Белае золата"**

Фрэска на сцяне егіпецкага храму у Фівах.



**Будзьма! Егіпецкі бог Гор здымае пробу з "Александрыі моцнай".**

**Выява ў храме бога Гора.**



Старажытна-егіпецкі разліўняк першай нацэначнай катэгорыі.



# ПІВА?



**Развалiны былой пiўнухi у горадзе Ур. Шумер, 5 тысяч год да н.э.**

**Месца пад куфаль піва**

кіравання Навуходаносара Другога, у 605 – 562 гады да нашай эры, з'явіліся першыя аб'яднанні піваварaў, выраблялася каля 20 гатункаў піва з ячменю і пшаніцы, з дабаўленнем траў, спецый і мёду. Аб ганаровым становішчы вытворцаў піва кажа той факт, што яны мелі некаторыя прывілеі, у прыватнасці - былі пазбаўлены вайсковай павіннасці. (Цікавы факт! Значыць, каб адкасіць ад тагачаснай арміі, трэба было проста заняцца піваварэннем! Каб такі закон існаваў бы ў нашай краіне, то прышлося б зачыніць міністэрства абароны за непатрэбнасцю, а замест яго зрабіць міністэрства піваварства.) Дзякуючы раскопкам у паўднёва-заходняй Персіі, якія былі праведзены французскімі навукоўцамі ў пачатку дваццатага стагоддзя, высветлілася, як спажывалі піва тры тысячы пяцьсот гадоў таму. Пры раскопках горада Сузы былі знойдзеныя вялізныя шарападобныя гліняныя сасуды, якія закопваліся пад паламі дамоў. Гэтыя здаравенныя ёмкасці былі гліклянымі прататыпамі сучасных піўных кегаў і накрываліся керамічнай плітой з адтулінай пасярэдзіне. Праз гэтую адтуліну піва альбо вычэрпвалі, альбо пілі з дапамогай трасніковых трубачак. Вось вам яшчэ і вынаходніцтва пітных трубачак, іх ужывалі з-за густога асадку ды лушпіння, зараз, канешне, трубачкі страцілі свой першапачатковы сэнс і служаць хутчэй элементам дэкору для кактэйляў, а піва праз саломку ў нашыя часы п'юць толькі піжоны. Яшчэ адна важкая дэталь, якую высветлілі археолагі – сасуды закопвалі пад падлогу толькі ў памяшканнях, прызначаных для мужчынскіх сходак! Мужчыны збіраліся і бавілі час сярод сяброў, разважаючы аб вышэйшых каштоўнасцях. Хоць футбола тады яшчэ не было, але ўжо можна было спакойна пагутарыць пра жанчын, коней, вайну ды сакральны сэнс жыцця.

Верагодна менавіта з гэтых краёў піва трапіла на Каўказ, бо па дадзеных грэчаскага гісторыка Ксенафонта, у царстве Урарту (сучасная Арменія) піва спажывалі аналагічным чынам.

У Эфіопіі піва называлася «фокка» і «мазар», трапіла яно сюды ад егіпцян. Нават у легендарнай Паднябёснай Імперыі ў тыя ж часы пілі напой «ціу», прыгатаваны з добра забрадзіўшага пшана. (Цалкам можа стацца, што рэцэптура піва - гэта кропля тых ведаў вышэйшых цывілізацый, якія існавалі да нашай). Існуе мноства апісанняў у фрэсках егіпецкіх манументаў ды на папірусах пра нацыянальны напітак «зытум» - ячменнае віно, гэтаксама спосабы яго прыгатавання. Першапачаткова зытум ужывалі ў рэлігійных мэтах, падчас разнастайных цырымоній ды абрадаў. Па легендзе, сам бог урадлівасці Асірыс навучыў жрацоў тайне прыгатавання «весяляшчага» напою. Фараон Рамзес Другі, відаць, неблагі быў дзядзька, бо атрымаў мянушку «півавар», а пры раскопках яго пахавальнай піраміды былі знойдзены піўныя куфлі ёмкасцю тры с паловай літры. У перыяд яго праўлення зытум атрымаў шырэйшае распаўсюджанне і набыў папулярнасць сярод усіх сацыяльных слаёў насельніцтва. З'явіліся больш-менш буйныя бровары, у якіх працэс браджэння адбываўся ў вялікіх гліняных жбанах, напалову закапаных у зямлю. Маюцца нават звесткі, што піва выкарыстоўвалі ў медыцынскіх мэтах, у якасці сродка супраць мігрэні і некаторых інфекцый. Мы таксама часта карыстаемся гэткім метадам лекавання, асабліва ўранку пасля вялікіх фэстаў. А жанчыны ўжывалі солад як касметычны крэм для скуры. Аб сацыяльнай важнасці, якую гэты трунак набыў у грамадстве, сведчыць той факт, што зытумам, як і хлебам, выдавалі значную частку зарплаты рабочым людзям. (Тут старажытныя егіпцяне яўна абыйшлі нашу цывілізацыю, дзе зарплату выдаюць грашыма - гэта ж трэба бегчы ў краму, потым за дагонкай - марная трата часу.) Потым, дзякуючы стасункам егіпцян з рымлянамі, піва трапіла ў Еўропу, а дакладней на Апенінскі паўвостраў і па ўсяму ўзбярэжжу міжземнага мора. Але на поўдні еўрапейскага кантынента яно не набыло такога значнага аўтарытэту, якім карысталася ў народаў паўночнай Афрыкі ды Малой Азіі. Абумоўлена гэта было моцнай канкурэнцыяй з боку віна, якое даўно ўжо мела трывалыя



пазіцыі ў Рымскай імперыі. На некалькі вякоў піва страціла свой статус. Калі віно было напоем знаці, арыстакратаў, то піва лічылася прадуктам для плебсу - ніжэйшых слаёў насельніцтва. Да таго ж з распаўсюджаннем хрысціянства піва страціла (хоць і не назаўсёды) рэлігійнае значэнне, бо гэта ўсё тое ж віно лічылася крою распятага Хрыста. Таму ў раннім хрысціянстве не знайшлося дастойнага месца для ячменнага напою. Калі перакласці на цяперашнюю мову, то гэта будзе гучаць так - віннае лобі поўнасцю падавіла новы брэнд, які планаваў усталявацца на еўрапейскім рынку, але пазней усё ж піва змагло заваяваць сегмент рынку танных напояў для бяднейшай часткі спажыўцоў.

Хоць піва і не карысталася асобай павагай, але ж гэта не перашкодзіла Гіпакрату прысвяціць цэлую кнігу лекавым якасцям напою. Да таго ж праз рымлян і грэкаў сакрэты піваварэння трапілі далей на поўнач і вось з гэтага моманту пачалося яго «другое нараджэнне»...

*(Працяг у наступных нумарах)*

***ГІСТОРЫЯ***

# Ракі ў піве па-нільску

***Ласыя да піва фараоны прыдумалі ўласны рэцэпт па прыгатаванні нільскіх ракаў, якіх можна лавіць падчас разліву Ніла хоць голымі рукамі. Гэтай стравай у свой час Клеапатра апаланіла сэрца Цэзара, калі той быў у адпачынку па гарачым туры на Чырвоным моры ў Егіпце. Галоўнае: не пераблытайце ракаў з мясцовымі кракадзіламі! Ясная справа, што без піва ў гэтым гурманскім рэцэпце не абысціся.***

***На 10 ракаў па 1 шт. морквы і цыбулі, 1 пук пятрушкі , 1 пучок укропу, 1 сталовая лыжка солі, лаўровы ліст, 2 шклянкі піва.***

***Прамытых ракаў пакласці ў амфару, дадаць нарэзаныя моркву і цыбулю, пятрушку, укроп, лаўровы ліст, соль і заліць дзвюма шклянкамі кіпня ды дзвюма шклянкамі піва. Варыць 10 хвілін. Падаваць ракаў да стала ў амфары разам з адварам або перакласці ў глыбокую старажытнаегіпецкую міску і заліць адварам разам з карэннямі зеляніны.***



## БЕЛАРУСКІ ФРЫСТАЙЛІСТ АЛЯКСЕЙ ГРЫШЫН ЗАРАБІЎ ДЛЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ ПЕРШЫ І ПАКУЛЬ АДЗІНЫ ЗАЛАТЫ МЕДАЛЬ ЗІМОВЫХ АЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯЎ.




Славуты палёт беларускага лыжнага арла, які прынес перамогу на Алімпіядзе

# ЗАЛАТЫЯ ЛЫЖЫ



**Вось і скончыліся XXI зімовыя Алімпійскія гульні ў Ванкуверы, вынікі якіх смела можна назваць самымі нечаканымі для шматлікіх спартыўных аналітыкаў. Так, галоўным адкрыццём стала зборная Канады. Гаспадары ў гэтым годзе пераўзыйшлі прызнаных фаварытаў, заняўшы першае месца ў агульнакамандным заліку з 26 медалямі, з якіх 14 – залатыя.**

Зборныя Германіі і ЗША занялі адпаведна другое і трэцяе месцы на п’едэстале. Галоўным жа расчараваннем, калі не сказаць правалам, стала выступленне Расіі. Да пачатку алімпіяды нашыя ўсходнія суседзі былі галоўнымі прэтэндэнтамі на месца ў тройцы мацнейшых. Але ж няўдалае кіраўніцтва не дазволіла перамагчы ў такіх, здавалася б, спрадвечна “расійскіх” відах, як лыжы, біятлон, фігурнае катанне. Не кажучы ўжо пра хакей, дзе Авечкін і кампанія вылецелі ўжо на стадыі чвэрцьфіналу. У выніку – толькі адзінаццатае месца з 11 медалямі. І ўсяго тры залатых.

А вось для зборнай Беларусі Ванкувер стаў самым паспяховым за ўсю суверэнную гісторыю. Поўны камплект узнагарод дазволіў нашым спартсменам камфортна размесціцца на 17 радку. Бронза біятланісткі Дар’і Домрачавай, срэбра яе калегі Сяргея Новікава, ну і, канешне, залаты медаль фрыстайліста Аляксея Грышына назаўсёды ўпісаныя ў гісторыю алімпійскіх гульняў! А вось ад хакеістаў многія балельшчыкі маглі разлічваць на значна лепшы вынік. Улічваючы тую падтрымку, якую дадзены від спорту атрымоўвае на дзяржаўным узроўні, а таксама падтрымку мясцовых аматараў, якія на матчах у тысячы галасоў крычалі “Belarus! Belarus!”, нашыя хакеісты павінны былі ўвайсці мінімум у чацверку. Нажаль, не атрымалася.

І ўсё ж, сёлетнія спаборніцтвы прынеслі больш станоўчых эмоцый, чым адмоўных. Цяпер самы час задумацца пра падрыхтоўку да наступных гульняў у 2014 годзе. Спадзяемся, што Сочы парадуе нас не менш за далёкі канадскі Ванкувер.




## Пацан сказаў – пацан зрабіў...

**Фінал алімпійскага турніра па хакею стаў поўным расчараваннем як для амерыканскіх хакеістаў, так і для прэзідэнта Злучаных Штатаў. Толькі не параза сваёй нацыянальнай зборнай стала прычынай яго смутку.**

Справа ў тым, што напярэдадні матчу вядомы спаршчык Барак Абама прапанаваў свайму канадскаму калегу прэм’ер-міністру Стывену Харперу пары на вынік фіналу. Кіраўнік Белага дома паставіў на кон упакоўку пенсільванскага піва Yuengling, а Харпер у адказ – 24 бутэлькі вытворчасці старэйшай канадскай піваваранай кампаніі Molson. Такая ўпэўненасць Абамы грунтавалася не на пустым месцы. Да фіналу амерыканцы падыйшлі ледзь не ў лепшай сваёй форме за апошнія гады. На папярэднім этапе яны не прайгралі ніводнай гульні, нават тых жа канадцаў яны абкаталі 5:3. Але ў самым галоўным паядынку чатрохгоддзя зорна-паласатыя падкачалі свайго прэзідэнта. Увесь матч ішла прынцыповая роўная барацьба. Асноўны час не выявіў пераможцаў і скончыўся з лікам 2:2. А вось у дадатковы перыяд фартуна адвярнулася ад сокалаў Абамы. Як вынік – 3:2 на карысць раданачальнікаў хакею.
Так што, з вас праставон, містэр прэзідэнт. І ў далейшым трэба больш уважліва ацэньваць свае шансы і старацца не ўлазіць у сумнеўныя спрэчкі.

# У ХАКЕЙ ГУЛЯЮЦЬ САПРАЎДНЫЯ




Залатым медалісткам спартыўны рэжым не пісаны...

# Уэйн Грэцкі: мой родны кут, як ты мне мілы...

Месца пад куфаль піва

**Напрыканцы студзеня адбылася значная падзея ў суверэннай гісторыі Беларусі – нашу краіну наведаў легендарны канадскі хакеіст Уэйн Грэцкі.**




Нагодай стала адкрыццё ў Мінску лядовай арэны. Па запрашэнні Федэрацыі хакею майстра клюшкі і шайбы прыняў удзел у святочнай цэрэмоніі, а таксама паспеў згуляць матч з Аляксандрам Лукашэнкам і галоўным трэнерам алімпійскай зборнай Міхаілам Захаравым. Распавядаючы пра вынікі гульні Грэцкі тактычна заўважыў: "Спадзяюся, што як трэнер спадар Захараў лепшы, чым як гулец".

Ні для каго не сакрэт, што спадар Уэйн Грэцкі мае беларускія карані. Яго дзед Цярэнці Лаўрэнцевіч яшчэ ў пачатку XX стагоддзя эміграваў за акіян, дзе адразу стаў Энтані Грэцкі. У перапынку паміж гульнямі і афіцыйнымі сустрэчамі славуты зямляк знайшоў час, каб сустрэцца ў гатэлі Еўропа са сваёй раднёй, сястрой Галінай і яе ўнукам Аляксеем. Сваякі абмяняліся прэзентамі, Галіна Зіноўеўна падаравала брату некалькі шакаладак і гліняную фігурку вусатага дзеда-беларуса, а Ўэйн Вальтаравіч у адказ замовіў у бары пару бутэлек дарагога віна. А для сябе яшчэ й куфаль добрага беларускага піва. Смакуючы пенны напой, беларуска-канадскі хакеіст прагутарыў больш за паўгадзіны замест запланаваных 10-15 хвілін. На развітанне ён паабяцаў, што ў наступны раз паспрабуе выкраіць больш часу, каб шчыльней пазнаёміцца са сваёй гістарычнай радзімай.



Хакей у тыя часы для Уэйна быў важнейшы за піва



## Алімпійскае серабро ўзяў Сяргей Новікаў

Нават вядомы беларускі фантаст XIX стагоддзя Ян Баршчэўскі, аўтар зборніка апавяданняў "Шляхціц Завальня", не здолеў бы і прымроіць, што наш лыжнік-стралец так імкліва накаціць на фініш. Да таго ж, ён паказаў аднолькавы рэзультат з легендай сусветнага біятлону, самім "вялікім і жахлівым" нарвежцам Оле-Эйнарам Б'ёрндаленам.

**ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА: Уэйн Грэцкі. Нарадзіўся 26 студзеня 1961 года ў Брэнтфардзе (Канада). З клубам "Эдмантан" чатыры разы выйграваў Кубак Стэнлі. Усталяваў 61 рэкорд НХЛ і атрымаў за свае дасягненні мянушку "Вялікі". 10 сезонаў ён быў лепшым бамбардзірам НХЛ. Прызнаны лепшым хакеістам НХЛ усіх часоў. Зараз з'яўляецца саўладальнікам клуба "Фінікс Каётс". Гуляў за Канаду супраць зборнай Беларусі на Алімпіядзе ў Нагана (1998 г.)**

## ЖАНЧЫНЫ!

**По колькасці скандалаў сёлетнія алімпійскія гульні могуць даць фору любому спартыўнаму спаборніцтву. Вось і канадскія жанчыны не стрымаліся і ўтварылі сапраўдны дэбош.**

Гаворка ідзе пра ўдзельніц жаночай сборнай па хакею, якія пасля перамогі ў фінале над камандай ЗША вырашылі сапраўды па-мужчынскі адсвяткаваць гэтую справу. Пасля таго як гледачы пакінулі арэну, спадарыні вярнуліся на лёд, і тут пачалася сапраўдная вакханалія. Чампіёнкі надзелі на сябе залатыя медалі, узялі ў рукі банкі з півам, бутэлькі шампанскага, у зубы – цыгары і каталіся ў такім выглядзе па пляцоўцы. Некаторыя нават селі на машыну для залівання лёду і давай наразаць на ей кругі. Міжнародны алімпійскі камітэт выказаў абурэнне недапушчальнымі паводзінамі хакеістак, маўляў, яны павінны быць прыкладам для іншых. Спадзяемся, чыноўнікі будуць у гэтым пытанні прынцыповымі і забароняць таксама святкаванне з шампанскім для розных вела-мота-аўтагоншчыкаў. Ці ж гэта справа, калі чэмпіён Формулы-1 бухае шампунь перад мільёнамі тэлегледачоў ды яшчэ й палівае зверху сваіх фанатаў. Выкаранім пагубныя звычкі са спорту!



## Бронзавая медалістка Дар'я Домрачава

**нарэшце здолела авалодаць сабой. Наша прыгажуня першай ашчасціла суайчыйнікаў. На гэтай Алімпіядзе яна не зблытала стойку з лёжкай і страляла толькі ў свае мішэні, як вынік – месца на п'едэстале і мора радасных пачуццяў у кожнай беларускай балельшчыцкай кватэры.**

# Піўны Гараскоп*



Рашучасць і імклівасць **АВЕНА** перадаецца і яго гатунку піва, якое калі і не валіць з ног адразу, то немінуча цягне на подзвігі. Адназначна Аліварыя "Моцнае".



Для **РАКА** аўтарытэтам з'яўляецца толькі тое, што прайшло праверку часам. Мінімум стагоддзе – вось больш-менш прымальны для яго тэрмін. Яго гатунак піва варыўся яшчэ ў тыя часы, калі збожжа да бравaрні прывозілі выключна на вазах альбо на санях. Гэта – "Жыгулёўскае". Для больш трывалых Ракаў – Крыніца "Александрыя" ў баначках. Для менш трывалых – Брэсцкае "Белавежскае".



Эстэты-**ШАЛІ** ў жыцці намагаюцца прытрымлівацца залатой сярэдзіны. Адсюль і ўвага да піва з аналагічнай назвай – Аліварыя "Залатое". Але, каб знайсці гэтую сярэдзіну, Шалям калі-нікалі прыходзіцца адштурхоўвацца ад скрайнасцяў. Таму часам могуць паддацца на ўгаворы і згадзіцца на бутэлечку-другую Брэсцкага "Дуплету".



**КАЗЯРОГІ** – людзі мэтана-кіраваныя і сур'ёзныя. Яны нічога не робяць проста так. І піва яны абіраюць сур'ёзнае, такое, як "Бівер".



Грунтоўнасць і кансерватыўнасць **ЦЯЛЬЦОЎ** уласціва яго гатунку піва. З усіх магчымых варыянтаў Цялец прытрымліваецца класічнага. Яго любімы гатунак – Лідскае "Прэміум". Да таго ж, Цяльцы, якія любяць добра пад'есці, часцяком выбіраюць "сытнае" піва, пасля бутэлькі якога ўжо можна і не снедаць. Гэта – пшанічны Kult. Цёмны альбо светлы, на аматара.



**ЛЬВЫ** ў гэтым пытанні не маглі абыйсціся без раскошы. Калі ёсць выбар, то Леў возьме самае дарагое. Каб, крый божа, не падумалі, быццам ён не можа сабе гэтага дазволіць. Тут без "Ракаўскага бровару" ніяк нельга.



**СКАРПІЁНЫ** складаюць змрочнае ўражанне. Напэўна, таму, што любяць горкія гатункі піва, накшалт Рэчыцкага "Дняпроўскага". Да таго ж, Скарпіён – адзіны знак, які здольны без страт для здароўя перанесці найцяжэйшы бадун пасля Лідскага "Портэру" з яго непрадказальнымі эфектамі.



Ніхто не крочыць па жыцці так лёгка і бесклапотна, як **ВАДАЛЕЙ**. Акрамя таго, Вадалей лічыцца самым буйным арыгіналам сярод знакаў Задыяку. Яго піва – маладзечанскі "Пятровіч".



Дэмакратычныя і гаварлівыя **БЛІЗНЯТЫ** аддаюць перавагу такому ж дэмакратычнаму і лёгкаму піву, пад якое можна не толькі балбатаць на самыя розныя тэмы, балець за любімую каманду, але й гуляць у більярд. Акрамя таго, за цікаўнасць і дапытнасць Блізнят падчас называюць вечнымі студэнтамі. Аліварыя "On Ice".



**ДЗЕВЫ**, якія звычайна даражаць сваім здароўем, сядзяць на дыетах і не атручваюць свой арганізм алкаголем, выберуць безалкагольнае. Уседлівых і скрупулёзных Дзеў часта лічаць лепшымі спецыялістамі ў выбранай імі галіне. Іх піва – светлае, лёгкае Баброў "Светлае".



Шырокая натура **СТРАЛЬЦА** наўрад ці абмяжуецца простай бутэлькай і нават літрам. Тут патрэбна мінімум двухлітровік. А лепей два. Крыніца "Класічнае".



Мяккія і выкшталцоныя **РЫБЫ** не любяць рэзкіх і моцных перажыванняў. Але ў той жа час нельга сказаць, што ім не падабаюцца вадзяністыя гатункі піва. Ды й прыхільнікамі цвярозага ладу жыцця ў агульнай сваёй масе яны ніколі не былі. Да таго ж, Рыбы – апошні знак Задыяку і ім прыходзіцца здавольвацца тым, што засталося. Аліварыя "Белае золата".

*** УВАГА! Калі вызначаны гатунак піва вам не падыходзіць – раім вам даведацца пра падрабязнасці вашага з'яўлення на свет: можа вас падмянілі ў роддоме ці памылкова запісалі дату нараджэння. Газета "Піўная" гарантуе дакладнасць інфармацыі!**




Газета зарэгістраваная Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 24.06.2009 г. за №531

**Галоўны рэдактар:**
**Паўлюк Канавальчык**

Заснавальнік і выдавец: Установа Інфармацыйна-выдавецкая агенцтва "ПостМедыя"

Юрыдычны адрас:
220005 г.Мінск, пр.Незалежнасці, 58-417
Тэл./факс: +375 17 292 88 77
Адрас для карэспандэнцыі:
220034 г. Мінск, п/с 1
Электронны адрас:
gazeta@piunaya.by
Дадатковую інфармацыю можна знайсці на афіцыйным сайце газеты:
**piunaya.by**

Адказнасць за змест рэкламы нясе рэкламадаўца.

Матэрыялы, што публікуюцца ў рубрыках "Цікава пакаштаваць", "Аматарам піва", "Дэгустуем разам" друкуюцца на правах рэкламы.

Пры перадруку матэрыялаў спасылка на газету абавязковая.

Газета надрукаваная ў РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку", Ліцэнзія №02330/0494179 ад 3.04.2009 220013 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79

**Тыраж 3200 экз.**

Нумар падпісаны да друку: 9.03.2010 г. а 15.02
Заказ № 1186